Народная Воля
http://www.nv-online.info
7 ЖНІЎНЯ 2012 г.

НА СВАЕ ВОЧЫ

# Выбары. Лета. Абыякавасць...

*Як у беларускай сталіцы ідзе збор подпісаў у падтрымку таго ці іншага прэтэндэнта на атрыманне мандата дэпутата Палаты прадстаўнікоў?*

20.40. Званок. Адчыняю дзверы, і бачу дзяўчыну, якая трымае ў руках папачку, паказвае мне фатаграфію нейкай жынчыны і просіць паставіць подпіс за вылучэнне гэтай дамы кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў. Запытваю: “А што гэта за прэтэндэнт? Ад каго ідзе?” У адказ: “Ад кампаніі “Гавары праўду!”.

— Ну, давайце, калі не ад улады, то падпішуся. Пашпарт патрэбны?

— Так, так... Калі ласка, — абрадавалася дзяўчына. — Вось біяграфію пачытайце.

Пад партрэтам чытаю кароткія біяграфічныя звесткі пра патэнцыяльнага кандыдата і адначасова цікаўлюся ў дзяўчыны, якую завуць Аксана:

— А ў нашым доме ахвотна ставяць подпісы?

— Ну... — сумелася яна. — Вось у вашым дзевяціпавярховым доме тры пад’езды. Ваш — апошні. Дык вы адзіная, хто спытаў мяне хоць нешта пра кандыдата. Дый увогуле першая, хто не проста праявіў цікаўнасць, але яшчэ і подпіс паставіў. Людзі, як толькі разумеюць, што я не з “Энергазбыту” ці нейкай такой службы, то адразу кажуць: “Нічога не хачу ведаць пра выбары. Не пайду!” Подпісы ставіць адмаўляюцца, кажуць, што не бачаць у гэтым ніякага сэнсу... Ім увогуле не цікава, ці ад апазіцыі кандыдат, ці ад улады.

Такім чынам, з трохпад’езднага дома ў цэнтры сталіцы падпісантаў знайшлося толькі двое — я і мой сын. Нечаканы вынік.

Запытваю ў лідара Аб’яднанай грамадзянскай партыі Анатоля Лябедзькі, якія ў іх поспехі ў справе збору подпісаў.

— *А мы подпісаў увогуле не збіраем,* — адказвае Анатоль Лябедзька. — *Па-першае, не бачым у гэтым сэнсу. А па-другое, каб не ўводзіць людзей у зман, бо яны паставяць подпісы, а потым наш кандыдат здыме сваю кандыдатуру (а менавіта такое рашэнне мы прынялі). У нас будуць сацыяльныя пікеты ў Мінску, Барысаве і Брэсце. Там мы будзем распавядаць людзям пра эканамічныя праблемы ў краіне. А так... Пра якія выбары можна весці гаворку? Мы — за байкот.*

Такое ўражанне, што кампанію байкоту выбараў, у прынцыпе, можна было б і не абвяшчаць ці, наадварот, абвясціць, каб потым адчуваць сябе пераможцам. Выглядае, што народ і агітаваць няма ніякай неабходнасці. І без таго ахвотных пайсці на выбарчыя ўчасткі не вельмі многа. Пра гэта сведчаць тыя, хто асабіста займаецца зборам подпісаў. Праўда, палітыкі, якія абгрунтоўваюць неабходнасць паўнавартаснага ўдзелу ў выбарах, ніякіх такіх настрояў не бачаць. Аляксандр Мілінкевіч і Уладзімір Навасяд ужо аб’явілі, што неабходныя подпісы для вылучэння ў іх ёсць і нібыта выбаршчыкі вельмі актыўныя. Каму верыць? Час пакажа.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ТЫМ ЧАСАМ

## *Слуцк: прэтэндэнт у дэпутаты са скандалам зняўся з перадвыбарнай гонкі*

Анатоль Юрэвіч, які публічна назваўся прадстаўніком кампаніі “Гавары праўду!”, заявіў, што здымаецца з выбарчай кампаніі, таму што не можа сабраць подпісы.

Галоўнай прычынай свайго рашэння Юрэвіч назваў настрой случчакоў. У інтэрв’ю Радыё Свабода ён паведаміў, што па яго падліках большасць выбаршчыкаў — прыкладна 60% — галасаваць на гэтых выбарах не збіраюцца.

*“Гэта кажуць у асноўным адукаваныя людзі. Я гэта дакладна даследаваў, таму што асабіста хадзіў па кватэрах і сабраў 120 подпісаў,* — растлумачыў прэтэндэнт у кандыдаты. — *А чалавек 600 адмовіліся. Тыя, хто ставіў подпіс, тым не менш тлумачылі: мы не пойдзем на выбары”.*

Журналістам Юрэвіч называўся прадстаўніком кампаніі “Гавары праўду!”. Але намеснік каардынатара “Гавары праўду!” Аляксандр Фядута выступіў на сайце “Беларускі партызан” з аспрэчаннем інфармацыі, што кіраўніцтва кампаніі падтрымлівае Анатоля Юрэвіча.

*“Па Слуцкай акрузе мы падтрымліваем іншага кандыдата — Аляксандра Солапа,—* удакладніў Фядута. — *Анатоль Юрэвіч не прасіў нашай падтрымкі”.*

ВЫБАРЫ

## *Назіральнікі АБСЕ прыедуць пасля 20 жніўня*

*“БДІПЧ АБСЕ прыступіла да фарміравання місіі назіральнікаў. Мяркуецца, што першая група назіральнікаў прыбудзе ў Беларусь пасля 20 жніўня. А група доўгатэрміновых назіральнікаў БДІПЧ АБСЕ павінна прыступіць да працы ў Беларусі 23 жніўня”,* — паведаміў сакратар ЦВК ***Мікалай ЛАЗАВІК.***

Мяркуецца, што ўсяго ў Беларусь напярэдадні выбараў у Палату прадстаўнікоў прыедуць 40 доўгатэрміновых назіральнікаў і 270 кароткатэрміновых назіральнікаў.

ДОСЛОВНО

## *Кандидат в президенты США: «Народ Беларуси страдает от гнета диктатуры»*

*“К сожалению, на сегодня есть часть мира, где желание быть свободным встречает жесткое давление. Просто к востоку отсюда народ Беларуси страдает от гнета диктатуры”, — заявил Митт Ромни в Варшаве.*

Кандидат Республиканской партии на пост президента США Митт Ромни совершил визит в Польшу — последний в рамках его зарубежного турне.

Как сообщают СМИ, Ромни выбрал для посещения именно Польшу, важнейшего американского союзника в регионе, чтобы попытаться убедить польскую диаспору в США, что он займет более жесткую позицию в отношении России, чем нынешний президент США Барак Обама.

*“Надежды на движение России в направлении свободного и открытого общества не увенчались успехом. В неспокойном мире Польша выступает в качестве примера и защитника свободы”,* — сказал Ромни.

ХОДЯТ СЛУХИ...

# Деноминация: быть или не быть?

В Беларуси вновь неспокойно. В интернете распространяются слухи о грядущей деноминации, Национальный банк их категорически опровергает, однако народ вновь побежал покупать золотые и серебряные слитки, потому что уже не знает, кому верить. Действительно, последняя девальвация рубля, проведенная несмотря на то, что тогдашний глава Национального банка Петр Прокопович клялся и божился, что рубль устоит, подорвала доверие к официальным заявлениям. Однако стоит ли впадать в панику?

Мы решили познакомить читателей с мнением не чиновников и не политиков — с мнением экономистов, представляющих российские и международные финансовые группы. Опрос проводило российское агентство экономических новостей “Прайм”.

Некоторые аналитики считают, что девальвация белорусского рубля вряд ли состоится в ближайшие месяцы, другие же, напротив, ожидают ее до конца текущего года.

*“Полагаю, что такие меры не будут применены, по крайней мере в ближайшие кварталы”,* — считает главный экономист УК “Финам Менеджмент” **Александр ОСИН.**

В то же время старший аналитик ИФК “Солид” Артур Ахметов прогнозирует новую волну девальвации в Беларуси уже к концу лета.

*“Вероятнее всего, Беларусь проведет девальвацию до конца текущего года, чтобы избежать лишних нагрузок на бюджет за счет очередных социальных мер. Кроме того, на фоне рецессии и снижения спроса в странах, с которыми работают белорусские предприятия, государство терпит убытки по экспорту, который действительно нуждается в поддержке за счет снижения курса валюты”,* — объясняет замдиректора аналитического департамента ОАО “Московский Фондовый Центр” **Елена ЧЕРНОЛЕЦКАЯ.**

*“Сейчас необходимости в этом нет: после шоковой девальвации прошлого года дефицит платежного баланса сильно сократился, сейчас он снова начал расти, но пока не достиг опасно высоких значений. У Беларуси большой внешний долг, девальвация приведет к тому, что обслуживать его станет еще тяжелее, так что для правительства пока обесценение национальной валюты несет больше минусов, чем плюсов”,* — считает аналитик Allianz РОСНО Управление Активами **Ариэл ЧЕРНЫЙ.**

С ним согласна начальник аналитического отдела ГК “АЛОР” Наталья Лесина, по мнению которой решение девальвировать белорусский рубль вряд ли станет панацеей. *“Все плюсы от девальвации белорусского рубля будут “съедены” стремительным ростом инфляции в стране”,* — отмечает она.

Таким образом, российские аналитики все-таки склоняются к тому, что правительство Беларуси не только не может готовить девальвацию, но и всеми силами должно противиться тому, чтобы белорусский рубль вновь обесценился. Правда, открытым остается вопрос: хватит ли у него на это сил?..

**Олег СНОВ.**

### ВЗГЛЯД ИЗ МИНСКА

### Станислав БОГДАНКЕВИЧ, бывший председатель Национального банка Беларуси:

— Положительное сальдо торгового баланса за полгода выросло на 1 миллиард долларов, золотовалютные резервы несколько увеличились. Рост рублевой массы поглощается ростом цен. Я полагаю, в ближайшие месяцы существенной, обвальной девальвации не будет. Цена доллара будет расти, но это будет ползучий рост, а не обвальный.

**— В Нацбанке назвали “утечку” информации о совещании бредом. Однако некогда экс-глава НББ Прокопович также заявлял, что девальвации не будет. Тем не менее рубль обесценился почти в три раза. Насколько серьезны сегодняшние риски?**

— Рублевая масса за полгода выросла более чем на 30%. Хотя в планах на этот год предусматривался рост рублевой массы не более чем на 25% — мы уже превысили годовой показатель. Это обстоятельство дает повод сомневаться в стабильности рубля.

Но главный показатель — платежеспособный баланс, баланс внешней торговли положительный.

Есть некоторые риски, связанные с возможными махинациями белорусских властей с “разбавителями-растворителями”. Если Россия потребует вернуть ей в бюджет 2 миллиарда долларов, тогда может возникнуть проблема. Но Россия всегда ставила геополитические интересы — поглощение Беларуси — выше экономических. Поэтому, думаю, эти махинации сойдут белорусским властям с рук.

ПАСТСКРЫПТУМ

## *Яшчэ на мінулым тыдні Сяргей Румас вызваліў свой кабінет у Доме ўрада*

*І зрабіў віцэ-прэм’ер гэта пасля таго, як быў прызначаны старшынёй праўлення Банка развіцця Рэспублікі Беларусь.*

Многія выказваюць шкадаванне з той нагоды, што адзін з самых адэкватных членаў Савета міністраў не здолеў затрымацца на высокай пасадзе. Прычым прагнозы наконт таго, што Румаса ва ўрадзе “з’ядуць”, гучалі ледзь не з першых месяцаў пасля яго прызначэння.

Сяргей Румас з вядомай сям’і фінансістаў. Яго бацька — Мікалай Румас — у свой час працаваў намеснікам міністра фінансаў і катэгарычна адмаўляўся ўзначаліць ведамства. Сам Сяргей Мікалаевіч прыйшоў ва ўрад з пасады кіраўніка “Белаграпрамбанка”. Зарэкамендаваў сябе на гэтай пасадзе як чалавек сціплы, разумны і адкрыты.

Што ж такое Банк развіцця, якім зараз будзе кіраваць Румас?

Загад аб стварэнні Банка развіцця Рэспублікі Беларусь быў дадзены кіраўніком дзяржавы год таму, у чэрвені 2011 года. Гэта не банк у класічным разуменні. Асноўная мэта арганізацыі — фінансаванне дзяржаўных праграм. Апроч таго, на Банк развіцця Рэспублікі Беларусь пераклалі абслугоўванне дзяржаўных пазык, узятых у замежнікаў.

Сярод кандыдатаў на кіраўніцтва ў банку часта называўся Сяргей Румас. Праўда, старшыня Нацбанка Надзея Ермакова паўтара месяца таму публічна абвергла гэтыя чуткі.

**Ігар МАРОЗАЎ.**



КОШЕЛЕК

## *Очередное подорожание топлива не за горами?*

В Беларуси с 1 августа 2012 года повышены ставки акцизов на нефтепродукты и алкогольные напитки. Соответствующее решение утверждено указом №349.

Согласно документу, на 10 процентов повышены акцизы на автомобильные бензины и дизельное топливо. Несложно догадаться, что вскоре вверх пойдут и цены на бензоколонках.

Кроме того, на 36,5% увеличены акцизы на вина плодовые крепленые марочные, на 13,8% — на слабоалкогольные натуральные напитки, на 4,4% — на вина натуральные, в том числе игристые и шампанские, газированные и шипучие, на 3,5% — на вина фруктово-ягодные. Теперь остается только ждать отмашки на новые ценники.

ПАЗІЦЫЯ

# Дык навошта разумным і прыстойным людзям удзельнічаць у сумніўных выбарах?

На мой погляд, ёсць дзве галоўныя прычыны, якія не дазваляюць разумным і прыстойным людзям удзельнічаць у сумніўных выбарах з ужо вядомым адмоўным для беларускага народа вынікам.

## Прычына першая

У Беларусі не існуе паўнамоцны парламент як вышэйшы прадстаўнічы і адзіны заканадаўчы орган дзяржаўнай улады. Яго ліквідацыя пачалася ў 1995 годзе, калі ў Вярхоўны Савет 12-га склікання былі ўведзены ўзброеныя войскі, якія прымянілі фізічную сілу да дэпутатаў, што аб’явілі галадоўку ў знак пратэсту супраць правядзення па ініцыятыве прэзідэнта ганебнага рэферэндуму аб ліквідацыі беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай, аб замене дзяржаўных сімвалаў фактычна савецкімі, аб наданні прэзідэнту права распускаць парламент, аб эканамічных стасунках з Расіяй. Завершана ліквідацыя сапраўднага парламента была ў лістападзе 1996 года пасля незаконна праведзенага рэферэндуму, у выніку якога была зменена Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь і ліквідаваны прынцып падзелу улады ў нашай краіне. Здейснена гэта было гвалтоўнымі метадамі.

Пасля таго як А.Лукашэнка прызначыў рэферэндум, Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь, усе рашэнні якога, паводле закона, з’яўляюцца абавязковымі і перагляду не падлягаюць, прыняў рашэнне 4 лістапада 1996 года: прызначаны рэферэндум аб змяненні Канстытуцыі не можа быць прызнаны законным, паколькі поўнасцю супярэчыць артыкулу 78 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, у якім засведчана, што парадак правядзення рэспубліканскіх рэферэндумаў вызначаецца законам. На той момант у нашай краіне законам не прадугледжваўся парадак змянення і дапаўнення Канстытуцыі праз рэферэндум. Такім правам быў надзелены выключна Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь. Акрамя таго, у той час Канстытуцыйны суд ужо адзначыў, што А.Лукашэнка злоўжывае сваімі паўнамоцтвамі, выдаючы ўказы, якія не адпавядаюць Канстытуцыі і іншым законам. На той момант Канстытуцыйны суд прызнаў такімі 18 указаў прэзідэнта.

Нягледзячы на рашэнне Канстытуцыйнага суда, А.Лукашэнка ў парушэнне Канстытуцыі і Закона “Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь” выдаў 5 лістапада 1996 года Указ №455, у якім сам вызначыў парадак уступлення ў сілу рашэнняў рэспубліканскіх рэферэндумаў аб змяненні і дапаўненні Канстытуцыі, а 7 лістапада 1996 года ён выдаў Указ №459, згодна з якім усе вынікі рэферэндуму будуць насіць абавязковы характар.

Пасля завяршэння ўсіх незаконных дзеянняў па ўнясенні змяненняў у Канстытуцыю А.Лукашэнка замест Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь стварыў дзве падкантрольныя яму палаты, якія, лічу, не маюць нічога агульнага з сапраўдным парламентам, бо пазбаўлены галоўных прыкмет і функцый парламента.

**Па-першае, палаты не з’яўляюцца адзіным заканадаўчым органам краіны,** як гэта ёсць ва ўсіх дэмакратычных краінах і як гэта было ў далукашэнкаўскай Беларусі. У сённяшняй Беларусі дэкрэт прэзідэнта, паводле артыкула 2 Закона Рэспублікі Беларусь “Аб нарматыўных прававых актах Рэспублікі Беларусь”, які прыняла Палата прадстаўнікоў, па сваёй юрыдычнай сіле абвешчаны роўным з законам. Гэта дазваляе прэзідэнту прымаць дэкрэты, якія могуць супярэчыць законам, але яны не могуць быць кваліфікаваны як незаконныя, бо яны ўжо набылі такі ж самы юрыдычны статус, як і законы. У такіх умовах палаты не здолеюць забяспечыць выкананне прынятых імі законаў, нават тады, калі гэтага пажадаюць. Праўда, такое жаданне, па вядомых прычынах, у іх не можа ўзнікнуць. У выніку наша краіна стала жыць не па законах, якія прымаюцца парламентам, а па дэкрэтах і ўказах прэзідэнта.

**Па-другое, палаты пазбаўлены права кантролю над выкананнем дзяржаўнага бюджэту, а таксама права кантролю над выкарыстаннем дзяржаўнай маёмасці.** Фармальна палаты кожны год прымаюць Закон “Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь”. Але яны не маюць права кантраляваць яго выкананне. У іх нават няма адпаведнага органа парламенцкага кантролю, як гэта ёсць у парламентах усіх дэмакратычных краін і як гэта было ў Беларусі падчас дзейнасці Вярхоўнага Савета 12-га склікання, калі галоўным органам фінансава-эканамічнага кантролю ў дзяржаве была Кантрольная палата Рэспублікі Беларусь, падпарадкаваная парламенту. Сёння ў Беларусі функцыі кантролю над выкананнем дзяржаўнага бюджэту ўскладзены на Камітэт дзяржаўнага кантролю, падпарадкаваны прэзідэнту. Паміж гэтым Камітэтам кантролю і той Кантрольнай палатай Рэспублікі Беларусь ёсць вельмі істотная розніца. Старшыню Кантрольнай палаты большасцю галасоў прызначала Сесія Вярхоўнага Савета краіны (калектыўны орган), і толькі яна (Сесія) магла вызваліць яго ад пасады. Таму старшыня Кантрольнай палаты ў сваёй дзейнасці быў незалежны ад дзяржаўных асоб, кіраваўся толькі Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, Законам “Аб Кантрольнай палаце Рэспублікі Беларусь” і іншымі актамі заканадаўства.

Старшыню Камітэта дзяржаўнага кантролю прызначае і вызваляе ад пасады прэзідэнт, таму ў сваёй дзейнасці старшыня Камітэта дзяржаўнага кантролю поўнасцю залежыць ад волі адной асобы. У такіх умовах немагчыма нават уявіць, што Камітэт дзяржаўнага кантролю можа дазволіць сабе арганізаваць праверку эфектыўнасці выкарыстання бюджэтных сродкаў або дзяржаўнай маёмасці прэзідэнтам ці яго адміністрацыяй.

Дарэчы, Кантрольная палата Рэспублікі Беларусь уваходзіла ў міжнародны (INTASAE) і еўрапейскі (EURASAE) органы парламенцкага кантролю. Актыўна і плённа з імі супрацоўнічала, але ў 1996 годзе Кантрольная палата была ліквідавана А.Лукашэнкам пасля таго, як пачала па даручэнні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь праверку эфектыўнасці выкарыстання дзяржаўных сродкаў і дзяржаўнай маёмасці ў Кіраўніцтве справамі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

**Па-трэцяе, палаты не з’яўляюцца прадстаўнічым органам улады,** паколькі яны не абіраюцца шляхам дэмакратычных выбараў, што засведчана шматлікімі групамі назіральнікаў, уключаючы еўрапейскіх і міжнародных. Таму ніводныя выбары, якія праводзяцца ў Беларусі пасля 1996 года, не былі прызнаны міжнароднай супольнасцю як дэмакратычныя.

Ліквідацыі парламента ў значнай ступені паспрыяла непрынцыповая пазіцыя часткі дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання, якія здрадзілі прынцыпам дэмакратыі і сваім выбаршчыкам, калі добраахвотна перайшлі на службу рэжыму ў створаную ім Палату прадстаўнікоў. У палату іх ніхто не выбіраў. Туды яны былі прызначаны на падставе пададзенай заявы. Спіс тых 110 дэпутатаў “Народная Воля” друкавала 23—25 лістапада 2010 года.

## Прычына другая

У Беларусі выбарчая сістэма не дэмакратычная. Падлік галасоў не падкантрольны грамадству. У такіх умовах рэжым “прызначае” дэпутатамі толькі сваіх, праверанных на лаяльнасць, кандыдатаў. Астатнія проста не маюць ніякіх шанцаў перамагчы на такіх выбарах. А.Лукашэнка ўжо даў устаноўку — не меней 30 % дэпутатаў у новым складзе Палаты прадстаўнікоў павінны быць людзі, правераныя ў сённяшняй палаце. Можна меркаваць, што на астатнія 60 % таксама будзе падрыхтаваны поўны спіс, узгоднены і ўхвалены кім трэба. Дык няўжо ў кагосьці з беларусаў можа ўзнікнуць сумненне, што дадзеная ўстаноўка можа быць не выканана?

Адзіная праблема рэжыму — як зацягнуць людзей на выбарчыя ўчасткі, каб выкарыстаць іх дзеля ўмацавання сваіх меркантыльных інтарэсаў.

І вось гэта праблема рэжыму дае беларусам надзею і шанц, паводле трапных слоў неўміручага Янкі Купалы, “не быць скотам”.

## Замест заключэння

1.У сённяшняй Беларусі парламент як вышэйшы прадстаўнічы і адзіны заканадаўчы орган дзяржаўнай улады не існуе. Дзве існуючыя палаты не маюць нічога агульнага з паўнавартасным парламентам, бо пазбаўлены галоўных прыкмет і функцый парламента. Яны не здольныя вырашыць ніводнай з праблем, што ўзнікаюць у краіне. Наадварот, падчас іх існавання колькасць і вастрыня праблем значна павялічыліся. Вось важнейшыя з гэтых праблем:

— Катастрафічна змяншаецца колькасць насельніцтва Беларусі (кожны год памірае людзей болей, чым нараджаецца).

— У забруджанай чарнобыльскай зоне вядзецца сельскагаспадарчая дзейнасць, вынікі якой не афішыруюцца і не могуць быць станоўчымі.

— Насуперак эканамічнай і экалагічнай мэтазгоднасці ў самай экалагічна чыстай мясцовасці нашай краіны пачалося будаўніцтва атамнай электрастанцыі па не прайшоўшай выпрабавання расійскай тэхналогіі. Ці не новы Чарнобыль рыхтуецца беларусам?

— Хуткімі тэмпамі расце алкагалізацыя насельніцтва.

— Разбураецца сістэма нацыянальнай адукацыі.

— Разбураецца беларуская культура.

— У беларускага народа мэтанакіравана адбіраецца беларуская мова — самая эфектыўная зброя ў абароне нацыянальных інтарэсаў. Ніхто з кіруючых асоб краіны, у тым ліку абедзвюх палат, публічна не ўжывае беларускую мову — дзяржаўную мову краіны, адсюль і адпаведныя адносіны да роднага слова з боку чыноўнікаў усіх масцей.

Пералік нявырашаных дзяржаўных праблем можна бясконца працягваць. Але чаму на гэтыя праблемы ніяк не рэагуе парламент, з маўклівай згоды якога ўсе гэтыя праблемы ўзніклі?

2.Перамагчы на недэмакратычных выбарах, дзе падлік галасоў не падкантрольны грамадству, не здолее ніхто, акрамя тых, каго ўжо “выбраў” рэжым.

Дык навошта разумным і прыстойным людзям удзельнічаць у сумніўных выбарах з ужо вядомым адмоўным для беларускага народа вынікам? Ці ж варта ў каторы раз наступаць на адны і тыя ж граблі?

**Мікалай КРЫЖАНОЎСКІ,**
**дэпутат**
**Вярхоўнага Савета**
**Рэспублікі Беларусь**
**12-га склікання.**

*Мікалай Кірылавіч Крыжаноўскі — адзін з тых дэпутатаў Вярхоўнага Савета 12-га склікання, якія ўдзельнічалі ў распрацоўцы і прыняцці Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі. У Вярхоўны Савет Мікалай Крыжаноўскі прыйшоў з пасады кіраўніка канструктарскага аддзела завода БелАЗ, маючы вялікі прафесійны досвед і шырокія практычныя веды ў галіне прамысловасці. Ён быў сапраўдным народным кандыдатам — у дэпутаты яго вылучылі 17 працоўных цэхаў БелАЗа.*



ПРОДОЛЖЕНИЕ ДИСКУССИИ

# Коса на камень, или Об остроте формальной логики

Поводом для моего участия в разворачивающейся на страницах "Народной Воли" дискуссии стала опубликованная ранее фраза экс-депутата Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь О.Абрамовой: "После событий 19 декабря никаких иллюзий о возможности изменения характера власти парламентским путем ни у кого не осталось".

Конечно, судить о человеке по одной фразе, выдернутой из "дневника индивидуума" и опубликованной в авторитетом издании, весьма трудно, но лично у меня от этой фразы повеяло холодом по спине (заимствовано у В.С.Высоцкого). Естественно, я через издание обратился к автору и попросил более детально изложить возможные подходы, потому что считаю: любой непарламентский путь будет противоречить Конституции нашей страны (ст.3). В ответе уважаемой О.Абрамовой, изложенном в статье "За бойкот власть скажет спасибо" ("НВ" за 24 января), существенным мне показалось только заглавие, поэтому толочь воду в ступе по поводу предложения об участии в выборах, но "не с целью получения мандата", я счел пустым занятием. Однако время показало, что и у этой идеи нашлись сторонники. Поди туда — не знаю куда. Принеси то — не знаю что. Проще говоря: пошли дурного, а вслед — другого.

Осознавая реальную опасность неразберихи в подходах к участию в предстоящей кампании, я высказал свое личное мнение в письме "Бойкот или отлуп?" ("НВ" за 19 июня) и предложил активно участвовать в избирательном процессе, чтобы:

а) политики не имитировали кипучей деятельности, выставляя от партии численностью полторы-две тысячи членов 110 кандидатов и превращая таким образом судьбоносное событие в политический балаган, а реально боролись за один-два мандата, приобретая бесценный опыт и используя законное право через институт доверенных лиц кандидатов осуществлять полномасштабное наблюдение за избирательным процессом;

б) граждане учились выражать недоверие претендентам от власти, которые станут раскручивать административный ресурс, и политическим шутам, дискредитирующим само понятие — народовластие. К фразе О.Абрамовой я возвратился лишь потому, что считаю ее провокационной и опасной. Особенно в условиях, когда наше население практически не читает и не почитает (не уважает. — **Авт.**) законодательство. Да и африканские события еще свежи в памяти.

По поводу весьма эмоционального выступления О.Абрамовой "Ну какой же вы тупой!" ("НВ" за 29 июня) полемизировать также не хотелось бы, но некоторые моменты заслуживают того, чтобы предпринять попытку разобраться в азах ее формальной логики и неосмотрительном желании раздавать пинки и эпитеты.

Мнение Андрея Битова о хамах и пинках под зад мне видится скорее убогим, нежели интересным. В "Правилах хорошего тона" XIX века имеется наставление дворянским детям: "Если вы встретили в дверях несущего мебель грузчика, уступите ему дорогу". Мне думается, что именно тогда, когда "образованные люди" перестали уступать дорогу грузчикам и стали называть их хамами, они и получили пинка под зад. Пример позаимствую у В.В.Маяковского.

*...Сегодня с денщиком:*
*ору ему*
*— эй,*
*наваксь*
*штиблетину,*
*чтоб видеть рыло в ней!*
*И конечно —*
*к матушке,*
*а он меня*
*к моей...*

Согласен, необходимо иметь силы и мужество, чтобы публично задавать президенту страны неудобные вопросы, и даже готов выразить благодарность Ольге Михайловне за такой подробный отчет о своих инициативах, многие из которых, несомненно, заслуживают одобрения и уважения. Согласен и с тем, что зависть — плохое чувство. Но трактовать мои слова об уютном парламентском кресле как "вербализацию мечты о таковом" не вполне обоснованно, потому что, с точки зрения моей житейской логики, прежде чем писать или утверждать новые законы, следует внимательно изучить принятые ранее. А это на сегодня уже не отдельные тома, а погонные метры вариаций на тему закона, от одного вида которых на книжных полках нормального человека берет оторопь. О какой же зависти можно вести речь перед грудой законодательных упражнений, которую придется разбирать вновь избранным депутатам?

Но можно продолжить выдумывать новые законы, не обременяя себя изучением уже имеющихся с многочисленными поправками и дополнениями. Можно, например, разработать закон "О защите прав потребителей рассола". И логическую базу подвести несложно: чтобы после законодательной браги последних лет не впадать в похмелье той же брагой, граждане должны иметь право на потребление качественного рассола.

А ведь похмеляться придется, потому что именно запредельное количество законов и указов, декретов и директив ведет к полному пренебрежению законностью. Доходит до того, что многие блюстители правопорядка и законности зачастую сами не владеют в должной мере правовыми вопросами и перестают оглядываться на законы. Народ реагирует на все это весьма просто: пан сел — батрак лег.

Свое публичное обращение к президенту в парламенте с предложением создать независимую комиссию по расследованию исчезновения известных политиков О.Абрамова преподносит как заслугу. А ведь это не что иное, как признание характера "карманности" парламента. Если исходить из моей деревенской логики, то именно парламентская комиссия могла бы быть действительно независимой. И никого не нужно было просить, просто тем же парламентариям нужно было самим создать такую комиссию. И давно все виновные в гибели известных людей были бы выведены на чистую воду.

Невозможно обойти вниманием еще один посыл "грамотной, знающей себе цену профи": "Хотя Вы, г-н Витиков, и не дружите с формальной логикой, но это не помешает получить искомый мандат. И удобное парламентское кресло. **Но надо подсуетиться".**

Не знаю, как подсуетилась — и не один раз — сама г-жа Абрамова, но для меня этот путь не вполне приемлем, потому что и без "специальных пояснений" знаю, что "любой народ имеет право протестовать против нечестных выборов, если его лишают обманным путем желанных представителей во власти". Но я знаю и другое: если граждане желают иметь своих представителей (депутатов) во власти, то они прежде всего должны выучиться процедурам материализации своих желаний, а потом, вооружившись знаниями, в рамках закона воплощать желаемое в действительное. Нет при этом необходимости залезать в лабиринты формальной логики. Чтобы не запутаться. И чтобы не обманули.

Дарэчы, прыведзеная В.Абрамавай прыказка на нашай хамскай мове гучыць больш ланакічна: нашаму б цяляці ды ваўка паймаці.

**Николай ВИТИКОВ,**
**экс-учитель,**
**но не пенсионер.**

*д.Терюха*
*Гомельского района.*

З ВОКА НА ВОКА

## *Убачымся, Таісія Іванаўна!*

15 студзеня 2010 года простую настаўніцу з Любанскага раёна пасадзілі ў службовы аўтамабіль раённага аддзела адукацыі і ў суправаджэнні начальніка і намесніка начальніка гэтага аддзела павезлі за 150 кіламетраў у Мінск. На "кавёр" да начальніцы абласнога ўпраўлення адукацыі Таісіі Іванаўны Данілевіч. Гэтай настаўніцай была мая жонка.

Прычына такой увагі высокапастаўленай чыноўніцы да яе і яшчэ пяці гэтакіх жа сціплых педагогаў была не ў іх прафесійных дасягненнях (хоць сярод іх былі сапраўдныя падзвіжнікі сваёй справы — такія, як Наталля Іллініч з Талькі Пухавіцкага раёна). Проста ім не пашанцавала мець членскія білеты апазіцыйных партый у той час, калі спадарыня Данілевіч вырашыла выпаліць крамолу з педагагічных шэрагаў.

Таісію Іванаўну не бянтэжылі ні Канстытуцыя разам з Крымінальным і Працоўным кодэксамі, законамі "Аб адукацыі" і "Аб палітычных партыях", ні нормы прафесійнай этыкі. Размова была не проста жорсткай. Жонцы пагражалі звальненнем з працы, выключэннем з аспірантуры, немагчымасцю далейшага працаўладкавання. Гэта пры тым, што яна была ўсяго толькі шараговым сябрам Аб'яднанай грамадзянскай партыі, ніякай актыўнай палітычнай дзейнасцю не займалася, а агітаваць дзяцей з цяжкай ступенню разумовай адсталасці (менавіта з такім кантынгентам яна тады працавала) немагчыма нават тэарэтычна.

Паднялі мы тады шум, уся апазіцыя пісала звароты ў розныя інстанцыі, прымала рэзалюцыі, абуралася ў прэсе і інтэрнэце. Я сам складаў звароты да губернатара і міністра адукацыі. І людзей тады ўдалося адстаяць. Падобна, гэта была ўсё ж такі самадзейнасць Данілевіч. Афіцыйна ў той час быў узяты курс на адлігу і прымірэнне з міжнароднай супольнасцю, на носе былі мясцовыя выбары, і скандал быў асабліва нікому не патрэбны. Хоць пракуратура і непасрэднае начальства абмежаваліся адпіскамі, але, па чутках, якія да мяне дайшлі, самадзейнасць чыноўніцы наверсе не адобрылі.

І вось цяпер я даведаўся, што яна балатуецца ў Палату прадстаўнікоў па Салігорскай сельскай выбарчай акрузе. Пасля перакройкі межаў акруг тут апынуўся і Любанскі раён, дзе мы тады жылі, і ў якім я ў 2008 годзе ўжо балатаваўся ў Палату прадстаўнікоў. Цяпер у мяне з'явіўся матыў балатавацца там паўторна. Убачымся, Таісія Іванаўна!

**Арцём АГАФОНАЎ.**

*Любанскі раён.*

### АД РЭДАКЦЫІ

Нагадаем, што палітычныя партыі яшчэ маюць магчымасць вылучыць сваіх кандыдатаў па ўсіх акругах. Арцём Агафонаў вырашыў балатавацца ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі.

ТАК ДУМАЮ!

## *Апошнюю рубашку здымуць*

Дзіўна неяк у нашай краіне адбываецца. Ну каб хоць хто з чыноўнікаў выйшаў з прапановай аб зніжэнні коштаў! Затое яны не саромеюцца патрабаваць, каб кошты павышаліся. Помню, намеснік старшыні ўрада Анатоль Тозік патрабаваў ад ВНУ павысіць кошты навучання. У іншай краіне яго б вынеслі з кабінета за такую прапанову, а ў нас — як і трэба. Хаця ўсім зразумела: ужо няма дзяржаве з каго грошы браць — дык будуць браць з бацькоў, якія апошнюю рубашку здымуць, толькі б даць дзецям адукацыю. І яшчэ балбочуць пра нейкае бясплатнае навучанне!

**І.С.ТОЎСЦІК.**

*г.Барысаў.*

РЭЗАНАНС

# А і праўда, давайце папросім прэзідэнта

У "Народнай Волі" за 24 ліпеня прачытала заметку спадарыні Людмілы Крашэўскай, якая працавала дырэктарам Шчомысліцкай сярэдняй школы Мінскага раёна. Заметка называлася "Папросім прэзідэнта?" і была надрукавана пад рубрыкай "Так думаю". Людміла Уладзіміраўна з замілаваннем успамінае той час, калі дзетак у іхняй школе навучалі на роднай мове. Менавіта тады ў школу і прыязджаў Аляксандр Рыгоравіч. І ён з дзеткамі размаўляў па-беларуску. Кабета, мабыць, вушам сваім не паверыла, калі пачула гэта. Яна так і піша: "Падумалася, а кіраўнік дзяржавы нябдрага валодае роднай мовай! Няўжо толькі здавалася?".

Дзіва што валодае! Ён жа не ў Эфіопіі вырас, не ў Францыі, а на нашай беларускай зямельцы, сярод жытнёвых палеткаў, васількоў на ўзмежку, бярозавых гаёў. І беларускую мову, я ўпэўнена, ён ведае не горш за нас з вамі. А чаму не размаўляе па-беларуску? А таму, што амаль усе нашы людзі грэбуюць родным словам, саромеюцца яго. А гэта ўсё роўна, што саромецца сваёй мамы ці таты, свайго роднага куточка.

Я наогул не разумею, чаму ўсё звальваюць на прэзідэнта? Чаму ён ва ўсім вінаваты? Няхай кожны пачне з сябе і размаўляе на роднай мове дома, на вуліцы, у краме. Дык жа не! Слова беларускае, тры рускія, два польскія. Каго пакаралі за тое, што ён размаўляе па-беларуску? У нашым Дзятлаве, напрыклад, нікога. Размаўляйце, калі ласка. Не ўмеем і вучыцца гэтаму не хочам. Даруйце за грубае параўнанне, але, як напісана ў адной талковай байцы, "Неча на зеркало пенять, коль кривая рожа".

Павучыцеся ў яўрэяў, панове. Што, у Беларусі шмат яўрэйскіх школ? А ці знойдзеце вы яўрэйскую сям'ю, якая б занядбала сваю родную мову, не ведала яе? І яны не ныюць і не просяць ні ў кога дазволу ды дапамогі. Проста людзі такія: разумныя, са сваёй годнасцю і гонарам.

Не так даўно ў Дзятлаве на плошчы 17 верасня быў выпускны баль для школьнікаў. Сабраліся выпускнікі, настаўнікі, бацькі. Словам, шмат народу, нават цёплы летні дождж не перашкодзіў. Раённае кіраўніцтва віншавала маладых, слова бралі бацькі, настаўнікі, выпускнікі дзякавалі за ўсё добрае, што ім дала школа. І ўсе як адзін на рускай мове! Ну чыста Смаленшчына, ці Браншчына, ці Разаншчына. Я ўжо хацела ўцякаць ад дажджу, як раптам чую цудоўную, такую чыстую, такую мілагучную родную мову! Гаварыў мужчына, а хто — не бачу, бо з-за свайго малога росту, калі не прашчаміцца наперад, то павінна глядзець людзям у спіны.

— А хто гэта так прыгожа размаўляе па-беларуску? (Во дзіва, праўда, пачуць у маленькім беларускім гарадку беларускую мову?!)

Мужчына, што стаяў упераздзе мяне, кажа:

— Гэта ж ксёндз Андрэй з пасёлка Казлоўшчына...

— Ксёндз?!

— Так. Ён адзін з выступоўцаў і валодае ёй.

Во дажыліся! І хто тут вінаваты? Пэўна ж, прэзідэнт... Смех, панове, толькі смех гэты горкі...

У нас на гарадскім рынку ёсць ралет, дзе малады мужчына прадае розныя фрукты і агародніну. Я заўсёды ў яго купляю, бо дамовіліся, што ён будзе размаўляць па-беларуску. Не ведаю, ці заўсёды так, але са мной — толькі на чыстай беларускай мове.

— Дзень добры! — вітае здалёк. — Мабыць, нешта хочаце набыць? Усё такое смачнае... — Усміхаецца і пытае "Ну што, правільна кажу?"

— Выдатна!

Шаноўная Людміла Крашэўская ледзь не плачучы піша, між радкоў проста коцяцца слязінкі: "Людзі, даражэнькія, чыноўнікі з разумнымі галовамі, пісьменнікі, педагогі ўсіх рангаў! Давайце прасіць прэзідэнта, каб разгледзеў сітуацыю, якая склалася з роднай мовай, і прыняў усе меры для яе ратавання".

Ну, давайце будзем прасіць. Толькі як? Подпісы збіралі ў падтрымку роднай мовы? Збіралі. Нават цэлы год аб'явілі Годам беларускай мовы, а як большасць лапатала на трасянцы, так і лапоча.

Яшчэ адзін варыянт застаўся: давайце дружна станем на калені ля рэзідэнцыі прэзідэнта. Калі міліцыя не разгоніць, то папросім. Толькі папруць нас адтуль, мабыць. І правільна зробяць. Бо не клянчыць трэба, прасіць невядома чаго, а мову родную вывучаць і карыстацца ёй. Не трэба выстаўляць сябе такімі бездапаможнымі.

Хацелася б сказаць ямчэй, але не буду...

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

*Дзятлаўскі раён.*

РУБАМ!

## *Калі не спыніць, то могуць вярнуцца "эскадроны смерці"*

Людзей хапаюць на вуліцах, складаюць пратаколы аб нецэнзурнай лаянцы і кідаюць у ізалятар "на суткі". Праз такую схему апошнім часам прайшлі многія навукоўцы, эколагі, журналісты, праваабаронцы і маладзёжныя актывісты.

Па-першае. Сведкамі на такіх судах выступаюць выключна міліцыянеры, а суды нават не звяртаюць увагі на абсурднасць абвінавачання, атрымліваецца, што чалавек лаяўся сам на сябе.

Па-другое. Звычайных людзей за брыдкаслоўе калі і караюць, то караюць штрафам, і то яшчэ трэба вельмі пастарацца, каб праваахоўнікі такімі зацікавіліся.

Па-трэцяе. Прадстаўнікі МУС і самі яшчэ тыя майстры мацернага слова, чаму ёсць маса і вусных, і відэа-, і аўдыёсведчанняў, але іх за тое, што не выбіраюць выразаў, да адказнасці не прыцягваюць.

Чацвёртае. Як усё гэта спыніць? Таму што калі не спыніць, то могуць вярнуцца "эскадроны смерці".

**Валянціна ТУЖЫКАВА,**
**сталая чытачка**
**"Народнай Волі".**

РЕПЛИКА

## *Поздно пить боржоми...*

Меня, как бывшего "вайскоўца", несколько удивило и озадачило недавнее совещание у главы государства с руководителями силовых структур **с целью** (как было объявлено в госСМИ) **совершенствования деятельности соответствующих министерств и ведомств в сфере безопасности.**

Повод был у нашего лидера (как вполне ожидалось!) устроить соответствующий разнос должностным лицам за весьма деликатную ситуацию со шведским самолетом, нагло и безнаказанно вторгшимся на территорию суверенной Беларуси буквально на второй день после празднования Дня Независимости. Но "кадровые решения" Лукашенко пообещал принять несколько позже — после "досконального расследования инцидента".

После весьма долгого и затяжного молчания "на высшем уровне" по поводу довольно экстравагантной вылазки шведов удивительно было слышать из уст правителя такие вот несколько неожиданные признания: **"Как объяснить провокацию с легкомоторным самолетом, который не только пересек границу, но и безнаказанно вторгся на территорию Беларуси? Ведь это в первую очередь — безопасность наших граждан... Более того, ведь этот самолет был вовремя обнаружен. Но почему начальники не пресекли этот полет? Кого жалели? Это головотяпство конкретных исполнителей или ошибки в самой системе охраны государственной границы в воздушном пространстве? Я хотел бы услышать ответы на эти вопросы".**

Но тут опять нестыковка, черт побери! Ведь после "провокации шведов" на всех уровнях наших властей было заявлено, **что никаких нарушений пограничного воздушного пространства Беларуси не было обнаружено!** Выходит, Александра Григорьевича высокие чины, как и весь честной народ, долгое время вводили в заблуждение.

Правда, многие умные люди и без данного **"совещания по безопасности"** сделали свои выводы о "головотяпстве некоторых исполнителей". Благодаря доступности к современным информационным технологиям и коммуникациям. В том числе и на международном уровне, включая, конечно же, интернет. **И слишком долгое молчание руководства страны в связи с данным позорным инцидентом общественное мнение Беларуси воспринимало не иначе, как попытку вообще "замолчать",** "замылить" такую вот "медвежью услугу" со стороны шведских спортивных летчиков. И "списать" этот инцидент (как было заявлено на совещании) на счет *"тенденциозных, а порой и противоречащих международному праву действий, которые предпринимают определенные политические круги Евросоюза и США по отношению к нашей стране". Из-за чего под патронатом многочисленных организаций, формально действующих под флагом распространения демократии, выращиваются, консолидируются и направляются в нужное зарубежным хозяевам русло внутренние деструктивные силы".*

Боже, сколько можно нас пугать этими чисто советскими страшилками!

И теперь после столь затяжной паузы молчания "наверху" и ряда противоречивых, просто смешных заявлений со стороны соответствующих ведомственных чиновников даже принятые самые строгие и чрезвычайные "кадровые решения" президента могут показаться нашему народу слишком запоздалой и явно вынужденной мерой. Как говорится, поздно пить боржоми, когда печень уже стала разлагаться!

Об этом самом боржоми приходится вспоминать, когда на том же совещании по безопасности А.Лукашенко поставил задачу **"на пороге парламентских выборов обеспечить возможность свободного волеизъявления граждан в спокойной обстановке и строгом соответствии с белорусскими законами".** Так и хочется сказать по поводу этих порядком заштампованных слов: спасибо, благодетель! Этим "волеизъявлением" те белорусы и белоруски, которые умеют думать, настолько сыты, что уже чувствуется у многих отрыжка.

**Алексей СОБОЛЬ,**
**военный пенсионер.**

ДЗЯКУЙ!

# Не абавязкова лічыць гады ў даўжыню...

Мой інстытут. Мая сям'я. Мая першая вышыня.

Хвалююся. Ізноў спяшаюся на сустрэчу з табою, як у тыя маладыя гады. Цяпер ты ўжо ўніверсітэт. Універсітэт імя Янкі Купалы.

Мае педагогі... Вы прараслі ў нашых лёсах. І з намі засталіся. І мы самі, хочацца верыць, зрабіліся трошачкі вамі. Я развіталася з табой, мая альма-матэр, у далёкім 1958 годзе. Я люблю адчыняць твае дзверы, калі ідуць заняткі. Калі на перапынкі выбягаюць сённяшнія студэнты. Безумоўна, яны — іншыя, гэтыя новыя пакаленні. Але веру: яны не дарэмна пераступілі гэты парог.

Цікава пабываць тут і ў часы канікул, калі пануе цішыня. Цішыня нейкая асаблівая, быццам беражэ нешта важнае. І кожны раз гэтае Нешта нахлыне аднекуль і такой пяшчотай, такой радасцю ахіне, сагрэе. І азорыць святлом тых далёкіх гадоў, якое жыве ў гэтых сценах. Не даюць яму згаснуць разумныя і добрыя вочы, што глядзяць на мяне з партрэтаў. І я зноў сустракаюся са сваімі педагогамі, хоць многіх ужо няма сярод нас. Запомніліся назаўжды колішні рэктар Дзмітрый Спірыдонавіч Маркоўскі, дэкан філфака Васіль Паўлавіч Казлоў, педагогі Кацярына Васільеўна Асокіна, Пётр Іванавіч Кавалеўскі, Барыс Маркавіч Фіх, Мікалай Гаўрылавіч Працэнка і іншыя.

Мне здаецца, яны, пэўна, ведаюць усё: як я ўвасабляла іх навуку — помніць пра адказнасць за дзяцей, за будучыню. Яны вучылі аддзяляць святло ад цемры, дабро ад зла. Дарылі нам цяпло сваіх душ, свае сілы і здароўе, давалі пункт духоўнай апоры. Было цікава бачыць, як жывуць нашы настаўнікі. Ва ўсіх было адзінае багацце — кнігі. Яны стаялі ў шафах, на антрэсолях, этажэрках, сталах, падаконніках, падлозе, у кухні...

Прага новых і новых ведаў не пакідае нас з сябрамі і сёння. У кожнага бібліятэка — таксама галоўнае багацце ў доме. Радуюся, калі і ў многіх нашых вучняў гэтак жа.

Адным з самых улюбёных выкладчыкаў быў Маісей Цалевіч Перальмутэр. Сустрэла яго аднойчы — праз шмат гадоў — ва ўніверсітэцкім калідоры — і ён аж заззяў, сказаў мноства добрых слоў. Дзякуй! Нашы педагогі перадавалі нам сваю ўлюбёнасць у прафесію, чалавечую годнасць, добразычлівасць і спагаду. І дагэтуль, даўным-даўно атрымаўшы дыпломы, здаём самы цяжкі экзамен — на ўменне жыць, не згубіць сябе. Памятаем словы дэкана гісторыка-філалагічнага факультэта В.П.Казлова: "У першую чаргу зберажыце сябе для сябе. Тады і другім многа застанецца!.."

Ніхто з нашых выпускнікоў не здрадзіў сабе, ні адно сэрца не з'ела іржа. Гады, канечне, гнулі нас, але ж не зламалі. Мы стараліся быць такімі, якімі хацелі бачыць нас нашы настаўнікі.

Жыццё — не колькасць пражытых гадоў, а шчаслівыя імгненні, якія засталіся з намі навечна. Не абавязкова лічыць гады ў даўжыню. Найлепш у глыбіню зазірнуць. У кожнага яна свая, адметная, дзе былі і цяжкасці, і выпрабаванні. І радасці, і перамогі... Я атрымлівала асалоду і радасць ад любімай педагагічнай працы — і ад урокаў, і ад пазакласнай работы. Для вучняў, калег заўжды былі адчынены дзверы майго дома і маё сэрца. Літаратурныя



**Я — студэнтка!" (сярэдзіна 50-х).**

гурткі, вечарыны з выездам да вяскоўцаў, уласная творчасць захаплівалі вучняў. Сама пішу вершы і дагэтуль выступаю на розных імпрэзах.

...Ідучы каля знаёмага будынка, не праміну зірнуць на вокны, якія мне і па сёння свецяць маякамі. І вінаград, як тады, пяшчотна абвівае яго сцены. І бюст Купалы каля гэтых вокан, ля яго заўсёды ляжаць кветкі. І лавачкі, на якіх любяць сядзець з кніжкамі і выпускнікі, і абітурыенты. Усё засталося родным і дарагім.

Люблю музей — візітную картку ўніверсітэта. Гэта гонар ВНУ і яго рэктара Я.А.Роўбы, доктара фізіка-матэматычных навук, прафесара. І, канечне ж, дырэктара музея У.М.Сытых — вялікага энтузіяста сваёй справы. Сёння ўніверсітэт налічвае 15 факультэтаў, 77 кафедр. Тут працуюць дактары і кандыдаты навук, дацэнты і прафесары, прызванне якіх — сеяць разумнае, добрае, вечнае.

На жаль, бывае, што чалавек у нейкіх нядобрых абставінах аказваецца чужым нават сярод сваіх, родных. Тады ў сям'і студэнцкага братэрства знаходзіш паратунак. Што можа быць даражэй? Калі са мной здарылася страшная бяда — адно за адным пайшлі ў іншы свет самыя родныя, блізкія: бацька, маці, сын, муж — я апынулася ў нейкай чорнай прорве. Здавалася, нішто ўжо не мае значэння і сэнсу. Мне не хацелася жыць, камусьці бачыць, размаўляць. Мяне быццам не стала... Я забылася нават пра сяброў — на той жудасны час. Але яны пра мяне помнілі. Дазналіся пра маё гора, прыляцелі зблізку і здалёк — Міхаіл Макоўскі, Гвідон Арановіч, Веня Буднік і шмат хто яшчэ. З імі чорная ноч развеялася. Дзякуй, дзякуй усім! Раскатурхалі ад пачварнага здранцвення, атулілі такім цяплом, што згледзянелае сэрца пакрысе адтаяла, прыняло неабвержнае: што б ні абрынулася на цябе — жыццё працягваецца. І ў цябе ёсць доўг перад ім, перад тымі, хто цябе гадаваў, рыхтаваў да ўсведамлення: лёгкіх дарог не бывае, галоўнае — ісці наканаваным шляхам з годнасцю.

Дзякуй, шчыры дзякуй, мае неацэнныя — настаўнікі, сябры з выпуску 1958 года, вучні, што напоўнілі ўсё маё існаванне святлом і не далі яму згаснуць! Значыць, і мне рана складваць крылы, на дабро трэба адказваць дабром. Бо Дабрыня — самая высокая вышыня, якой можа дасягнуць чалавек!

**Роза РЫМАР,**
**настаўніца.**

*Гродна.*

РЕКЛАМАЦИЯ

## *Легче всего повесить объявление...*

Уважаемая "Народная Воля"!

С 16 июля сего года отделения связи №120 по ул.Казинца, №64 по ул.Ландера и №108 по ул.Корженевского работают очень странно. Раньше они были открыты с 9.00 до 20.00, выходной — воскресенье. Теперь на каждом из этих узлов связи висит от руки написанное объявление, что в связи с нехваткой кадров (до конца августа) эти отделения связи будут работать с 10.00 до 18.00, обед с 13.00 до 14.00, выходной — суббота и воскресенье.

Возникает вопрос: откуда появятся кадры в конце августа и сразу в трех отделениях и где они сейчас?

Прежний режим работы почтовых отделений утвержден в Мингорисполкоме. Чтобы изменить распорядок работы, нужно согласование с Мингорисполкомом. "Белпочта" это сделала?

Знают ли в Мингорисполкоме, что возникла такая ситуация в данных почтовых отделениях? Что с утра до закрытия почты стоит плотная толпа очереди?

**Леонид Александрович ХОДАН,**
**житель Минска.**

